www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

№ 79 (4228)

6 кастрычніка 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ДАРЭЧЫ

## Венесуэла просіць пабудаваць яшчэ пяць аграгарадкоў па беларускай мадэлі

Пра гэта паведаміў учора журналістам міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі **Леанід Заяц.**

Узвядзенне першага ў Венесуэле аграіндустрыяльнага гарадка было пачата некалькі гадоў таму. Беларускія спецыялісты пабудавалі 176 жылых дамоў і склад мінеральных угнаенняў, праклалі больш за 20 кіламетраў дарог і расчысцілі 2,5 тысячы гектараў ад хмызнякоў.

Л.Заяц адзначыў, што пакуль выканана толькі пятая частка праграмы. Праблема ўпіраецца ў крыніцы фінансавання. “Наперадзе будаўніцтва малочна-таварных комплексаў, птушкафабрык, забойнага цэха, мясаперапрацоўчага завода, малакаперапрацоўчых прадпрыемстваў і іншых аб’ектаў”, – адзначыў міністр.

ВІЗІТ

## Аднавіць энергетычныя, прамысловыя і сельскагаспадарчыя дагаворы паміж Беларуссю і Венесуэлай

Такі лейтматыў учарашніх перамоў прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі з прэзідэнтам Венесуэлы Ніколасам Мадурам.

Тэмпы рэалізацыі сумесных праектаў не задавальняюць абодва бакі. *“У апошнія гады з-за складанай сітуацыі ў свеце тэмпы рэалізацыі сумесных праектаў знізіліся. Нас не задавольвае гэта – ні беларусаў, ні венесуэльцаў. Сітуацыю трэба папраўляць”*, – падкрэсліў А.Лукашэнка.

**(Працяг тэмы на 2-й стар.)**

100 РАДКОЎ МІХАСЯ СКОБЛЫ



## Палессе – беларуская Каталонія?

Днямі на электронную пошту я нечакана атрымаў спавешчанне, што 25–27 лютага 2018 года ў Пінску мае адбыцца першы Палескі кангрэс, арганізаваны грамадскай арганізацыяй “Садружнасць Палесся”. Калі e-mail у свабодным доступе, якіх толькі паведамленняў з Беларусі і замежжа на яго ні прыходзіць – чытаць не паспяваеш! Але ў дадзеным выпадку абмінуць гэту інфармацыю ніяк не выпадала.

Дзеля чаго ж павінен сабрацца той “палескі кангрэс”, якія надзённыя пытанні мусяць абмеркаваць ягоныя ўдзельнікі? Свае мэты арганізатары форуму не хаваюць – на ім плануецца стварыць рабочую групу па распрацоўцы “палескага алфавіта”, заснаваць аргкамітэт грамадскага аб’яднання “Культурная аўтаномія Палесся”, наладзіць выданне газеты “Збудінне”…

Стоп! Газета з такой назвай у Беларусі ўжо выходзіла – у 1989–1990 гадах, прычым на нейкай “яцвяжскай” мове. І хоць выходзіла яна неперыядычна, пабачылі свет усяго 18 нумароў, але галасу нарабіла і нядобрую памяць па сабе пакінула.

Яе аўтары (грамада з пяці-шасці чалавек) даводзілі, што Палессе – адметны ва ўсіх адносінах рэгіён са сваёй уласнай мовай, а таму заслугоўвае мець сваю аўтаномію. Каб, значыцца, у гэтай аўтаноміі і школы з “яцвяжскай” мовай навучання з’явіліся, і радыё сваё, і кніжнае выдавецтва.

Склад рэдакцыі “Збудіння” неаднаразова змяняўся, нязменным заставаўся адзін чалавек – Мікола Шэляговіч. Ён і выступаў паўсюль галоўным рухавіком і натхняльнікам “яцвяжскай аўтаноміі”. І трэба сказаць, што ў ягонага праекта знаходзіліся ўплывовыя апекуны і фундатары. Памятаю, як у Пінску некалькі дзён гудзеў фестываль “яцвяжскай” песні – сучасны “Славянскі базар” мог бы пазайздросціць. Нават “Сябры” там засвяціліся, і Анатоль Ярмоленка, няйнакш адчуўшы сябе сапраўдным “яцвягам”, натхнёна спяваў пра “полэшучку”, што зацьміла сваёй красой “порыжэнак”.

Галоўны “яцвяг” Шэляговіч, карыстаючыся тагачаснай галоснасцю, раздаваў налева і направа інтэрв’ю, дзе яго часам несла, як кабылу пана Быкоўскага з гары. Так, у гутарцы з вядомым журналістам Аляксандрам Уліцёнкам ён самаўпэўнена як пра вырашаную справу гаварыў пра тую палескую аўтаномію. Далей – цытата: *“Если же белорусы окажутся не готовыми к разделу политической власти, то Белоруссия сегодняшняя может быть расчленена на три части: Полесье отойдет к Украине, а Западная Белоруссия – к Польше. Шанс «шчырых белорусов» – только в конфедерации или федерации с полешуками”* (Уліцёнак А. Іншадумцы, 1991, стар.145).

Што было, тое сплыло, – скажаце вы. “У капцах паснула, зеллем парасло”, – дадаў бы я, прыгадаўшы класіка. Але ж не ўсё, што плавае, сплывае. Сярод ганаровых гасцей “палескага кангрэса” з правам голасу значыцца… Мікола Шэляговіч. Той самы, які балантэсіў пра падзел Беларусі ў найскладанейшы перыяд яе палітычнага станаўлення.

Куды ж ён знік, чым цяпер займаецца і якія нівы засявае сваім палымяным словам? Аказваецца, нікуды спадар Шэляговіч не знікаў, проста перакваліфікаваўся з “яцвяга” ў адэпта “русского мира” і гэтак жа палымяна, як калісьці высмактаную з пальца “Яцвягію”, сёння адстойвае “спрадвечную рускасць” Калінінградскай вобласці. І жыве там, у колішнім Караляўцы-Кёнігсбергу.

На інтэрнэт-партале інфармацыйнага агенцтва PEX (пабрацім сумнавядомага “Рэгнума”) *Николай Шелягович* ці не самы запатрабаваны аўтар. Каб не стамляць вас аналізам ягоных публіцыстычных опусаў, я проста прывяду іх загалоўкі: “Священная Русская империя”, “Русская Польша”, “Забытый древнерусский период в истории Калининградской области”, “Почему до сих пор не состоялся белорусско-российский русский мир”…

Нырнуўшы з галавой у “пруска-рускую” праблематыку, Шэляговіч час ад часу вяртаецца і да сваёй улюбёнай тэмы – “яцвяжскага” Палесся. Не дае яно яму спакою, цягне як магнітам з тае Прусіі. Відаць, на філасофіі кёнігсбержца Імануіла Канта *“русский мир”* не вельмі будуецца. Вось і прыдумаў Шэляговіч, што самай надзейнай платформай для таго самага *“мира”* можа стаць наша Палессе (у яго разуменні – Яцвяжская Русь) – “как самая архаичная и наиболее сохранившая древнерусское наследие территория, о которой вполне можно сказать: из Етвязи есть пошла Русь. Ибо именно Ятвяжская Русь с ее Беловежской пущей и Брестом, с Припятью и Туровом – чем не сакральное место Руського света!”

*“Руський свет”* і *“русский мир”* – знайдзіце, як той казаў, адрозненні. Хіба мяккі знак…

Будучы прыпрэжаным да сцялежанага воза расійскай прапаганды, Мікола Шэляговіч мусіць выказвацца і на ўласна беларускія тэмы. Так, Кастусь Каліноўскі для яго, вядома ж, тэрарыст з прапольскай арыентацыяй. А Максіма Багдановіча, аказваецца, “опекал и вдохновлял” вялікі рускі пісьменнік Максім Горкі... Перш чым рабіць такія “адкрыцці” ў багдановічазнаўстве, хай бы аўтар пракансультаваўся ў сваёй былой жонкі, якая працяглы час узначальвала Музей Багдановіча.

Цяпер вы разумееце, якой праблемай для Беларусі можа стацца той “палескі кангрэс”, на якім ганаровым госцем з правам голасу заяўлена такая адыёзная асоба? У 1992 годзе Пінскі гарсавет здолеў адбіцца ад таго Шэляговіча – з дапамогай старшыні пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета і народнага паэта Ніла Гілевіча (з таго часу Ніл Сымонавіч стаў для “яцвяга” ворагам №1).

Дзіўна, але ў паляшуцка-яцвяжскага праекта, запушчанага ў канцы 1980-х, не перавяліся прыхільнікі да гэтай пары. Што яшчэ дзіўней – у асяродку пісьменніцкім. Так, у выдаваным Таварыствам украінскіх літаратараў (існуе пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў) альманаху “Справа” можна прачытаць не толькі творы на паляшуцкіх гаворках, але і сцвярджэнні, што на Кобрыншчыне, Піншчыне, Століншчыне, Лунінеччыне і Бярозаўшчыне людзі размаўляюць… па-ўкраінску. А значыць, трэба… Вы ўжо здагадаліся, што трэба? Прыблізна тое самае, што і прыдумшчыкам “Яцвягіі”. Што праўда, з’явілася арыентацыя на Украіну, што насцярожвае яшчэ больш.

Як прафесійны філолаг, мушу сказаць: так, беларускае Палессе мае свае моўныя асаблівасці, як мае іх віцебскае Паазер’е, усходняя Магілёўшчына і заходняя Гродзеншчына. У беларускай мове – безліч дыялектаў. Іх я і чуў, праехаўшы і праплыўшы па Прыпяці ад Пінска да Турава. І няма чаго ў душах палешукоў сеяць каталонскі сіндром (аб аўтамізацыі, аддзяленні і г.д.) – ён там ніколі не прыжывецца. Як прыжываецца ў галовах палітычных авантурнікаў накшталт Шэляговіча.

Неяк адзін з аўтараў згаданага альманаха “Справа” павёз мяне на сваю радзіму – у мястэчка Гарадная на Століншчыне (самы цэнтр Палесся), каб я на свае вочы і вушы пераканаўся: палеская мова існуе, а палешукі – асобны народ. Мы пабывалі на ганчарным фэсце, паездзілі па ваколіцах, шмат чаго наглядзеліся і наслухаліся. А на начлег спыніліся ў маці майго знаёмца, якая да паўночы спявала нам народныя песні. І сёння гучыць увушшу: “Ой зэлэнэ жыто, зэлэнэ, дорогіе гостыкі в мэнэ. Ой зэлэнэ жыто-осока, дорогіе госты здалэка”.

Перад тым як ісці спаць, я падзякаваў гаспадыні-пявунні і запытаўся: “Цётка, а кім вы сябе тут, у Гараднай, лічыце – яцвягамі, палешукамі, украінцамі?” Карэнная паляшучка Вольга Восіпаўна Пешка глянула на мяне як на школьніка: “Запомні, сынку, мы – твэрды білорусы!”

На месцы арганізатараў “палескага кангрэса” я запрасіў бы ганаровай госцяй не “яцвяга” Шэляговіча, а спадарыню Вольгу. Прынамсі, тады там прагучаў бы голас народа.

**P.S.** Калі гэты тэкст рыхтаваўся да друку, стала вядома, што навіна пра “палескі кангрэс” – фэйкавая. Але, як мы пераканаліся, праблема існуе, яна ўзнікла не сёння. І дыму без агню, як вядома, не бывае.

РЭГІСТРАТУРА




## Мікалай Шарстнёў трымае слова…

У Віцебску актыўна будуецца новая паліклініка ў мікрараёне “Поўдзень-7А”, разлічаная на тысячу наведванняў у змену. З ліпеня рабочыя працуюць на аб’екце штодня, будаўнічыя работы не спыняюцца нават у выхадныя.

Безумоўна, навіна добрая. Асабліва для жыхароў мікрараёна, якія з 2012 года, як толькі распачалася будоўля, чакаюць, калі яна нарэшце скончыцца. У мінулым годзе на гэты медыцынскі даўгабуд Віцебска звярнуў сваю ўвагу кіраўнік вобласці **Мікалай Шарстнёў.**

*“Аб’ект уключаны ў інвестыцыйную праграму 2017 года. Для завяршэння паліклінікі і яе аснашчэння неабходна 250 мільярдаў недэнамінаваных рублёў. У наступным годзе вырашана асвоіць у роўных долях 40 мільярдаў з гарадскога і абласнога бюджэтаў*, – расказаў тады аб планах старшыня Віцебскага аблвыканкама. – *Гэта дазволіць узвесці будынак пад дах. А ў 2018 годзе паліклініка будзе адкрыта”*.

Праўда, наколькі атрымаецца ў Шарстнёва выканаць абяцанне, пакуль сказаць складана. Справа ў тым, што на сёння ўзведзены толькі сцены чатырох паверхаў, а паліклініка мусіць быць васьміпавярховай. Нядаўна ў частцы будынка, якая да гэтага гатова, пачалося ўнутранае аздабленне сцен (атынкоўка). То бок работы, можна сказаць, толькі пачынаюцца. Аднак будаўнікі выказваюць надзею, што ў будучым годзе фінансаванне будзе значна павялічана і гэта дазволіць закончыць будаўніцтва.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ВЕРДЫКТ

## Аштрафаваны на 300 базавых велічынь за абразу суддзі

Віцябчанін аштрафаваны на 300 базавых велічынь (6900 рублёў) за абразу суддзі ў сацыяльных сетках, паведаміў БЕЛТА намеснік начальніка аддзела па наглядзе за адпаведнасцю закону судовых рашэнняў па крымінальных справах пракуратуры Віцебскай вобласці **Віталь Сузанскі.**

Прысуд быў вынесены сёння. Крымінальная справа па абвінавачанні 30-гадовага жыхара Віцебска па арт.391 КК (абраза суддзі ў сувязі з ажыццяўленнем ім правасуддзя) разгледжана ў абласным судзе.

Як паведамлялася, мужчына, выкарыстоўваючы свой акаўнт пад выдуманымі звесткамі ў сетцы, размясціў на сайце ў адной з адкрытых тэматычных груп, прысвечаных Віцебску, тэкставы каментарый, які ўтрымліваў «лінгвістычныя прыкметы абразы суддзі». Мужчына дзейнічаў наўмысна, імкнуўся публічна абразіць у сувязі з ажыццяўленнем суддзёй правасуддзя – разглядам канкрэтных крымінальных спраў. Каментарый быў даступны для ўсіх інтэрнэт-карыстальнікаў.

Віну ў здзяйсненні злачынства абвінавачаны прызнаў толькі часткова. У сваіх дзеяннях не раскаяўся, перад суддзёй прабачэння не папрасіў.

У СВЕЦЕ

## Stop!

Учора Вярхоўная Рада Украіны прыняла закон, які абмяжоўвае гастролі расійскіх артыстаў. Парламентарыі палічылі, што многія з іх прыбываюць у краіну з мэтай “актыўна падтрымаць расійскую агрэсію і палітыку пуцінскага рэжыму”, што павялічвае рэальныя пагрозы нацыянальнай небяспецы і тэрытарыяльнай цэласнасці краіны.

## Нобель па літаратуры атрымаў англічанін японскага паходжання Кадзуа Ісігура

Нобелеўскі камітэт абвясціў імя лаўрэата па літаратуры за 2017 год. Ім стаў 62-гадовы брытанскі пісьменнік японскага паходжання Кадзуа Ісігура.

Ён нарадзіўся ў 1954 годзе ў Нагасакі, аднак з 6-гадовага ўзросту жыў у брытанскім Гілфардзе. У 1978-м атрымаў ступені бакалаўра англійскай мовы і філасофіі ў Кенцкім універсітэце.

Найбольш вядомыя раманы Ісігура «Там, дзе ў дымцы ўзгоркі», «Мастак крохкага свету», «Рэшта дня», «Не адпускай мяне», «Калі мы былі сіротамі».

У 1989 годзе за раман «Рэшта дня» Ісігура атрымаў прэстыжную Букераўскую прэмію. Прычым прысуджана яна была адзінагалосна, што здараецца вельмі рэдка. «Рэшта дня» – гэта маналог старога англійскага дварэцкага на фоне ўздыму фашызму і пачатку вялікай вайны.

У 2010 годзе рэжысёрам Маркам Раманэкам быў экранізаваны раман Ісігура «Не адпускай мяне». У галоўных ралях зняліся Кэры Маліган, Эндру Гарфілд, Кіра Найтлі.

«Не адпускай мяне» – гэта антыўтопія. Аповед вядзецца ад імя 30-гадовай жанчыны. Яна расказвае аб сваім дзяцінстве ў незвычайнай школе-інтэрнаце, у якой гадуюць дзяцей-клонаў, якія потым становяцца донарамі органаў. Раман «Не адпускай мяне» часопіс Time назваў у сотні найлепшых англамоўных кніг XXI стагоддзя.

Ісігура перакладаўся на рускую мову. Па-беларуску твораў новага нобелеўскага лаўрэата яшчэ няма.

Афіцыйная фармулёўка, за што Ісігура атрымаў прэмію: «Творцу, які ў сваіх надзвычай эмацыйна моцных раманах раскрыў бяздонную рэальнасць пад нашым ілюзорным светаўспрыманнем».

Ісігура – 28-ы лаўрэат Нобеля, які піша па-англійску. Папярэдняга брытанскага Нобеля ў 2007 годзе атрымала Дорыс Лесінг у 2007 годзе. Такім чынам, Ісігура стаў дванаццатым брытанцам, хто займеў самую прэстыжную літаратурную ўзнагароду.

(“НН”.)

САЛІДАРНАСЦЬ

## Паплечнікі Алеся Бяляцкага ўзаемадзейнічаюць з Сусветнай кааліцыяй супраць смяротнага пакарання

Беларускія ўлады даўнымдаўно пазбавілі афіцыйнай рэгістрацыі праваабарончую арганізацыю “Вясна”. Але гэта не перашкаджае ўзаемадзеянню з Сусветнай кааліцыяй супраць смяротнага пакарання, якое наладжвалася пры пасрэдніцтве FIDH (Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека) у межах кампаніі “Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі”.

Эксперты і актывісты кампаніі тройчы бралі ўдзел у сусветных кангрэсах супраць смяротнага пакарання. Прадстаўнікі Кааліцыі неаднаразова сустракаліся з беларускімі праваабаронцамі як на міжнародных пляцоўках, так і ў нашай краіне. У кастрычніку мінулага года Беларусь наведала першы прэзідэнт Кааліцыі **Фларанс Беліўе**, якая адзначыла, што ў «Вясны» і Кааліцыі вельмі падобныя падыходы ў працы, і агучыла ідэю пра ўступленне праваабарончага цэнтра ў сусветны альянс абаліцыяністаў. У хуткім часе былі зроблены неабходныя крокі ў гэтым кірунку.

*“Наша ўступленне ў Сусветную кааліцыю супраць смяротнага пакарання ўзмоцніць хор галасоў пратэсту супраць кары смерцю ў Беларусі і вынесе гэтую праблему на міжнародны ўзровень. Мы разам з мільёнамі актывістаў з усіх кантынентаў змагаемся за тое, каб свет канчаткова развітаўся са смяротным пакараннем і праз гэта стаў больш міласэрным і лепшым. Не – смяротнаму пакаранню!”* – кажа лідар праваабаронцаў **Алесь Бяляцкі**.

Сусветная кааліцыя супраць смяротнага пакарання аб’ядноўвае больш за 150 грамадскіх арганізацый, асацыяцый адвакатаў, мясцовых органаў улады і прафсаюзаў, і дзейнічае дзеля ўмацавання міжнароднага аспекту барацьбы супраць смяротнага пакарання, прыкладаючы намаганні для падтрымання тэндэнцыі да яго адмены па ўсім свеце. На сёняшні дзень дзве трэці ўсіх краін свету (141) з’яўляюцца краінамі-абаліцыяністамі як у законе, так і на практыцы. Кааліцыя заклікае да канчатковага спынення смяротных прысудаў і пакаранняў смерцю ў тых краінах, дзе яны па-ранейшаму прымяняюцца. Да дасягнення сваёй мэты Кааліцыя імкнецца праз аказанне падтрымкі арганізацыям-сябрам, мясцовым, нацыянальным і рэгіянальным абаліцыяніцкім сілам, а таксама шляхам каардынацыі міжнароднай адвакацыі ў напрамку глабальнай адмены смяротнага пакарання.

СІТУАЦЫЯ

## Чаму Паўла Севярынца асудзілі, але не пасадзілі?

*Палітыку “выпісалі” 15 сутак адміністрацыйнага арышту… на будучыню.*

2 кастрычніка ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска адбыўся суд над палітыкам **Паўлам Севярынцам** за ўдзел у акцыі 8 верасня. У выніку сустаршыні аргкамітэта па стварэнні партыі “Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя” далі 15 сутак арышту. Праўда, з суда Паўла адправілі… дадому.

– Суддзя абвясціў, што тэрмін адбыцця пакарання будзе адлічвацца з моманту затрымання, – распавёў “Народнай Волі” палітык. – І пасля гэтага я пайшоў дадому, бо ніхто затрымліваць мяне ў судзе не збіраўся. Мікалай Статкевіч за акцыю ў ліпені таксама атрымаў 15 сутак, але прыкладна месяц чакаў, пакуль яго пасадзяць. Адным словам, будуць, напэўна, выбіраць зручны час, калі ім трэба будзе мяне арыштаваць. Напрыклад, 21 кастрычніка плануецца мітынг, таму не выключаю, што напярэдадні і адправяць у Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў.

**– Адным словам, “суткі” пачалі выпісваць на будучыню?**

– Так, напэўна, уладам зручней нейтралізоўваць актывістаў напярэдадні нейкіх акцый. У дадатак яшчэ і на нервах трымаюць людзей, якія кожны дзень могуць апынуцца за кратамі. Бо, па вялікім рахунку, мяне павінны былі накіраваць на “суткі” адразу пасля вынясення судовага рашэння. Тым больш што я прысутнічаў на судзе. Увогуле, быў выпадак з Артурам Фінькевічам, калі той свае “суткі” адсядзеў амаль праз год. Так што ў крэатыўнасці нашым праваахоўнікам не адмовіш. Тут, як кажуць, і смех і грэх.

**Віктар ШПАК.**

ВІТАЕМ!

## Фёдара Конюхава цягне ў неба

*Вядомы расійскі падарожнік прыехаў у Мінск, каб вывучаць лётную справу.*

**Фёдар Конюхаў** – чалавек легендарны. Здзейсніў 6 кругасветных плаванняў і яшчэ адно на паветраным шары, 17 разоў перасёк Атлантыку. Пры гэтым першую экспедыцыю ажыццявіў у 15 гадоў – на вёславай лодцы. Пабываў у гарах, наведаўся на Паўднёвы і Паўночны полюсы…

Дарэчы, пасля службы ў арміі Конюхаў скончыў ПТВ №15 горада Бабруйска па спецыяльнасці «рэзчык-інкрустатар».

Зараз падарожнік прыехаў у Беларусь, каб навучыцца лётнай справе. Ён збіраецца ажыццявіць яшчэ адзін свой праект – праляцець вакол свету на самалёце на сонечных батарэях.

Паводле слоў прэзідэнта Федэрацыі планёрнага спорту Расіі **Сяргея Рабчынскага**, у Беларусь многія расіяне прыязджаюць атрымаць лётныя пасведчанні, *“паколькі “Росавиация” не мае празрыстай сістэмы для стварэння вучэбных авіяцыйных цэнтраў”*.

Рабчынскі ўдакладніў, што навучанне Конюхава зойме прыкладна паўгода. За гэты час падарожнік павінен авалодаць тэорыяй, навучыцца лятаць у аблоках і ноччу. Пасведчанне пілота яму якраз і патрэбна для пяцідзённага кругасветнага падарожжа на планёры.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

В ТЕМУ

# «В Венесуэле остался только один наш сотрудник…»

## Как работают белорусские компании в Венесуэле?

Во времена Уго Чавеса белорусско-венесуэльские отношения развивались весьма активно, товарооборот между нашими странами достигал 580,8 миллиона долларов, появились совместные СП в нефтяной области, в машиностроении, а белорусские строители взяли на себя обязательства возвести для венесуэльцев 10 тысяч квартир.

Но уже в прошлом году мы наторговали с Боливарианской Республикой всего лишь на два миллиона долларов! В январе–июле этого года данный показатель несколько улучшился: товарооборот составил 5,4 млн долларов.

Что касается совместных проектов, то и тут ситуация далека от идеальной.

### «Мы опасаемся за безопасность наших сотрудников»

«**Петролера БелоВенесолана**» – одно из первых белорусско-венесуэльских СП, предприятие специализируется по добыче нефти. Образовано в 2007 году в период очередной российско-белорусской «нефтяной войны», когда Российская Федерация грозилась изменить условия поставок нефти в Беларусь.

В 2010-м в Беларусь танкерами были доставлены первые тысячи тонн венесуэльской нефти, добытые «Петролера БелоВенесолана». Позже от поставок черного золота из Боливарианской Республики мы отказались, но свой интерес в добыче нефти в Венесуэле сохранили.

Доля белорусской стороны в «Петролера БелоВенесолана» составляет 40%. Еще недавно сообщалось, что эта компания в среднем добывает в год около 1 миллиона тонн нефти и 900 миллиардов куб. метров газа на семи нефтяных и шести газовых месторождениях.

А что сейчас?

– Предприятие работает, добыча нефти ведется, – поясняет заместитель начальника управления внешнеэкономической деятельности «Петролера БелоВенесолана» **Павел Лях**. – Но штат предприятия сократился. Венесуэла сейчас переживает сложный, напряженный период, в стране есть определенные проблемы, мы опасаемся за безопасность персонала, поэтому белорусы, которые там работали, покинули страну. В Венесуэле остался только один наш сотрудник, очень опытный, который работает в СП со дня его основания. Он сопровождает интересы «Белоруснефти» в компании. Плюс мы работаем через схему видеоконференций, при необходимости подключаем к диалогу технических сотрудников с венесуэльской стороны для обсуждения вопросов, которые нам интересны.

**– Сколько белорусов раньше работало в Венесуэле на вашем предприятии?**

– Более 50 человек. Мы надеемся, что сокращение персонала – это временное явление.

Хотел бы отметить, что, несмотря на сложности, доля участия «Белоруснефти» в СП сохранилась, дивиденды от продажи нефти мы получаем.

**– И какие это суммы?**

– Это служебная информация.

**– А объемы добычи нефти удалось сохранить?**

– Объемы, к сожалению, упали относительно показателей предыдущего года. Опять-таки по причине сложной ситуации в Венесуэле. Но это не критичная позиция.

К слову, «Петролера БелоВенесолана» – не единственное совместное белорусско-венесуэльское предприятие, завязанное на добыче нефти. В 2007 году было создано СП по сейсморазведочным работам **«Сисмика БелоВенесолана»**, в 2011-м – **«Сервисос Петролерос БелоВенесолана»**, которое занимается бурением и ремонтом скважин. По словам Павла Ляха, эти предприятия также сегодня работают в Венесуэле, есть в их штате и белорусы, но объемы работ, выполняемых этими СП, значительно сократились.

В 2017 году на «ВенеМинск Тракторес» собрано только 8 тракторов.

### Сотрудничество приостановлено

Стоит отметить, что при Уго Чавесе планировалось открыть в Венесуэле 15 совместных предприятий. Но реально заработали только СП в нефтеперерабатывающей отрасли, а также завод по сборке тракторов «Беларус» **«ВенеМинск Тракторес»**, грузовых автомобилей МАЗ «**МазВен**» и завод по производству дорожно-строительной техники «Амкодор».

Сегодня эти предприятия фактически не работают. Официальные данные свидетельствуют: в 2017 году на белорусско-венесуэльских СП собрано 14 автомобилей МАЗ и 8 тракторов.

– *К сожалению, похвастаться нечем,* – честно признается заместитель маркетинг-директора по коммерческой работе на рынках дальнего зарубежья Минского тракторного завода **Дмитрий Счастный.** – *Сегодня на «ВенеМинск Тракторес» собирается очень мало тракторов, и они реализуются венесуэльским сельхозпредприятием за символическую сумму.*

*Чтобы было понятно, поясню: этот завод строился за венесуэльские деньги, наша доля в СП – это интеллектуальная собственность, инжиниринговая поддержка. Собираются трактора из комплектующих, которые поставляет МТЗ. До недавнего времени наши специалисты постоянно контролировали качество продукции, выпускаемой на «ВенеМинск Тракторес», участвовали в сборке. Но уже почти год как мы приостановили свое участие в этой компании до тех пор, пока не будет решен вопрос с финансированием. Дело в том, что венесуэльская сторона не рассчиталась с МТЗ за поставленные комплектующие, долг вырос достаточно большой. Платить они не отказываются, но вопрос пока не решен.*

В Венесуэле “Белзарубежстрой” строит обычные панельки.

По словам Дмитрия Счастного, проект с венесуэльской стороной МТЗ закрывать не намерен. «*Все думают о том, как определить дальнейшие взаимоотношения,* – говорит он. – *Это проект государственного уровня, министерства и с нашей стороны, и с венесуэльской ищут точки соприкосновения, чтобы производство тракторов было взаимовыгодным для двух сторон*».

### «Мы одна из последних иностранных компаний, которая остается в Венесуэле»

С 2007 года в Венесуэле работает белорусская строительная компания – **«Белзарубежстрой».** Она, можно сказать, создавалась под венесуэльский рынок и брала на себя обязательство построить в Боливарианской Республике за счет венесуэльского бюджета объекты промышленной и гражданской инфраструктуры.

«Белзарубежстрой» стал активным участником национальной венесуэльской программы, объявленной еще Уго Чавесом, – «Великая миссия жилья». Программа предполагала строительство трех миллионов квартир до конца 2019 года. Белорусы обязались построить в нескольких регионах страны 10 тысяч социальных квартир – обычных панелек, которых полно в наших городах.

Последний отчет о проделанной работе по программе «Великая миссия жилья» на сайте “Белзарубежстроя” датирован февралем этого года.

В публикации отмечалось, что «Белзарубежстрой» сдал в эксплуатацию очередные 288 квартир в одном из комплексов «Город Тиуна», который белорусский застройщик возводит в столице Венесуэлы Каракасе. Видимо, подчеркивая важность события, сообщалось, что на церемонии присутствовал президент Венесуэлы **Николас Мадуро.** Также из отчета компании следовало, что на февраль 2017 года «Белзарубежстрой» сдал заказчику 7 тысяч 256 квартир из заявленных 10 тысяч. И, например, в штате Баринас, где белорусы обязались возвести три тысячи квартир, не построено и половины этого жилья. То есть работа в Венесуэле для «Белзарубежстроя» есть.

Однако говорить о том, сколько сегодня белорусских строителей трудится в Венесуэле, на каких условиях работает в Боливарианской Республике компания, сотрудники «Белзарубежстроя» отказываются. Генеральный директор «Белзарубежстроя» **Виталий Бондарик**, с которым также удалось поговорить, в своем комментарии был немногословен. «*Мы одна из последних иностранных компаний, которые работают сегодня в Венесуэле,* – заявил он. – *Стараемся, работаем, но не столь успешно, как могли бы*».

**Мария ЭЙСМОНТ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Ігар КОМЛІК:

# «Унуку пісаў, што знаходжуся ў Цэнтры падрыхтоўкі касманаўтаў…»

*Бухгалтар Беларускага незалежнага прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП), якога днямі вызвалілі з СІЗА №1, распавёў “Народнай Волі” пра два месяцы, якія ён правёў у ізалятары.*

Нагадаем, **Ігар Комлік** утрымліваўся пад вартай з 2 жніўня ў межах крымінальнай справы, узбуджанай супраць яго і старшыні прафсаюза РЭП **Генадзя Фядыніча** па ч.2 арт.243 Крымінальнага кодэкса РБ (ухіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў у асабліва буйным памеры). Санкцыя гэтага артыкула прадугледжвае пакаранне да 7 гадоў зняволення з канфіскацыяй маёмасці.

Роўна праз два месяцы пасля затрымання Ігар Комлік выйшаў на волю пад падпіску аб нявыездзе.

– Даваць паказанні я катэгарычна адмовіўся, і на гэта ў мяне былі важкія прычыны, – распавёў «Народнай Волі» Ігар Комлік. – Я ўжо неаднаразова сутыкаўся з такімі сітуацыямі, бо на прафсаюз ціснуць пачалі не сёння. І з таго вопыту зразумеў, што зараз дзеянні следчых накіраваны не столькі на нас з Фядынічам асабіста, колькі на арганізацыю.

**– І якая была рэакцыя на ваша маўчанне?**

– Мяне змясцілі ў ізалятар часовага ўтрымання, кожны дзень прывозілі ў ДФР. Пытанне было традыцыйнае: “Будзеце гаварыць?” Як толькі ў чарговы раз адмаўляўся, везлі зноў у камеру. А праз два дні наогул перавялі ў СІЗА на Валадарскага, дзе я і правёў апошнія два месяцы.

**– За краты вы патрапілі ўпершыню?**

– Так, раней нават на “суткі” не саджалі, але маральна я быў падрыхтаваны нават да турмы.

**– Як сустрэў вас ізалятар?**

– Нармальна. Убачыў, што там шмат прыстойных людзей. На мой погляд, некаторыя і ўвогуле не павінны ў СІЗА знаходзіцца. Прадпрымальнікі, кіраўнікі прадпрыемстваў… Іх шэрагі ў камерах пастаянна папаўняюцца. Я ў гэтым бачу тэндэнцыю. Калі ў краіне няма нармальнай эканомікі, то знаходзяць тых, каго можна “падаіць” на грошы. Бюджэт трэба ж папаўняць.

Дарэчы, калі патрапіў у камеру і сказаў, што прадстаўляю незалежныя прафсаюзы, многіх гэта зацікавіла, і ў нас нават былі спрэчкі. З “дырэктарскім корпусам” і бізнесменамі абмяркоўвалі недасканалае беларускае заканадаўства, хаця некаторыя казалі: маўляў, прафсаюз нічога не вырашае і наймальніку ён не патрэбны. У дыспутах тлумачыў сваю пазіцыю і шмат каго пераканаў. Развіталіся сябрамі.

**– З боку адміністрацыі СІЗА ціску на вас не было?**

– У СІЗА быў пэўны рэжым, і я яго выконваў. Следчыя туды наведваліся рэдка, паколькі я адмаўляўся даваць паказанні, а работнікі ізалятара нікога асабліва не вызначалі. Іншая справа, што ўмовы і правілы ўтрымання ў СІЗА, напэўна, варта было б падкарэкціраваць. Напрыклад, там можна карыстацца нажніцамі, але яны для ўсіх агульныя. Чаму б не зрабіць асобныя ячэйкі, каб там знаходзіліся прадметы асабістай гігіены?

Што тычыцца ежы, то тут асаблівых нараканняў не было, хаця былі і некаторыя негатыўныя моманты. Рыбу варылі цалкам – з галавой і касцямі, і затым гэты “далікатэс” давалі нам. Часам прыносілі недапечаны хлеб, і яго даводзілася проста адкладваць убок, таму што такое есці немагчыма. Я нават не ведаю, што з ім затым робяць. І абсалютна не разумею, чаму такое безгаспадарчае стаўленне да хлеба. У камеры быў француз, які распавядаў, што ў іх турме, дзе ён таксама пабываў, паднялі бунт з-за таго, што людзям давалі кожны дзень адзін і той жа ёгурт. Усіх вельмі павесяліла гэтая гісторыя.

**– Ігар, а як вы падтрымлівалі сувязь са знешнім светам? Праз перапіску?**

– Па-першае, быў тэлевізар, можна таксама было выпісваць газеты і часопісы. Адзін з сакамернікаў атрымліваў “Народную Волю”, таму чытаў ваша выданне рэгулярна. У тым ліку і пра сябе, пра сітуацыю з нашым прафсаюзам.

І лісты, безумоўна, таксама пастаянна атрымліваў ад калег, блізкіх і нават незнаёмых людзей. І, карыстаючыся магчымасцю, хачу перадаць праз вашу газету вялікую падзяку Людміле з пасёлка Нарач! Яна напісала такі душэўны ліст падтрымкі! Вельмі хацелася ёй адказаць, але жанчына не ўказала зваротны адрас. Таму кажу зараз: дзякуй вам, даражэнькая, за цёплыя словы!

**– Як адбывалася ваша вызваленне?**

– Праз два месяцы следчыя павінны былі вызначыцца, ці пакідаць мяне за кратамі. Не пазней за пяць дзён пракурора павінны паставіць у вядомасць пра намеры следства. Тых, хто знаходзіцца пад следствам, прыкладна ў такія ж тэрміны таксама папярэджвалі пра далейшую меру стрымання. Але мне наогул нічога не казалі. І 2 кастрычніка, калі выйшаў мой двухмесячны тэрмін, я ў рэшце рэшт сам пацікавіўся, які мой далейшы лёс. Адказалі так: “Пытанне яшчэ вырашаецца”. А каля 17.00 паведамілі, што выходжу на волю пад падпіску аб нявыездзе. Вечарам жонка арганізавала святочны стол з нагоды вызвалення, 10-гадовы ўнук павіншаваў…

**– Ведаў, дзе дзядуля знаходзіўся?**

– Не толькі ведаў, але і дасылаў мне лісты. Ён да гэтага часу не разумее, чаму дзядулю, які нічога дрэннага не рабіў, пасадзілі ў турму. Дарэчы, у лістах я яму ў жартаўлівай форме пісаў, што знаходжуся ў Цэнтры падрыхтоўкі касманаўтаў, дзе праходжу маральную і фізічную загартоўку.

**– Ваш сын Андрэй Комлік-Ямацін з’яўляецца фігурантам “справы “Белага легіёна” і таксама правёў каля трох месяцаў у следчым ізалятары.**

– Я пісаў пра сітуацыю з сынам, якога абвінавачвалі ледзь не ў экстрэмізме, старшыні Следчага камітэта, кіраўніку КДБ. “Белага легіёна” даўно не існуе, чаму гэтую даўно забытую структуру “за вушы” прыцягваюць да справы? Андрэй нават на акцыі пратэсту ніколі не хадзіў, заўсёды сумленна працаваў. Які экстрэмізм?

**– Уяўляю, як складана даводзілася вашай жонцы. Вясной на тры месяцы ў СІЗА трапляе сын, у жніўні туды ж адпраўляецца муж…**

– У ізалятары мне было непрыемна адчуваць, што я тут ляжу на нарах і чытаю кнігі, а жонка ўся ў перажываннях і цягне воз за дваіх. Але што зробіш? Кіраўнікі прадпрыемстваў таксама сёння працуюць, а заўтра недапечаным хлебам у камеры частуюцца. Яны таксама не застрахаваны ад пераследу.

**– Ніхто не ведае, ці дойдзе “справа прафсаюзаў” да суда. Якія ў вас адчуванні?**

– Я думаю, што рашэнне будзе прымацца на палітычным узроўні. Хаця ёсць, безумоўна, у пэўных структур інтарэс, каб праца нашага прафсаюза была заблакіравана. З часам крымінальную справу могуць працягнуць, але не ведаю, ці пойдуць на такі крок. Нас абвінавацілі ў нявыплаце падаткаў за 2011 год, і што перашкаджае хутка гэта даказаць? Дакументы перадаюцца ў суд – той прымае рашэнне. А калі будуць працягваць расследаванне, то што гэта будзе азначаць? Што шукаюць нешта іншае. Ды і сума быццам бы нясплачаных падаткаў не такая вялікая – каля 11 тысяч долараў. Былая кіраўніца Упраўлення справаў прэзідэнта Галіна Жураўкова скрала ў дзяржавы, здаецца, каля 3 мільёнаў долараў, але яе памілавалі. Што наша сума ў параўнанні з тымі мільёнамі?

**– Як працуецца пасля выхаду на волю?**

– Скажу шчыра: часу на адпачынак не было, таму адразу ўключыўся ў работу. На офісе падчас вобшукаў забралі разам з камп’ютарамі ўсю інфармацыйную базу, а таму трэба ўсё аднаўляць, каб нармалізаваць працу прафсаюзаў. Мы ў любым выпадку будзем працягваць сваю справу.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



РЭГІЁН

## У Полацку разбураецца Дом афіцэраў

*Гістарычны будынак у цэнтры горада знаходзіцца ў заняпадзе ўжо некалькі гадоў.*

Пакуль Аляксандр Лукашэнка ў чарговы раз патрабуе навесці ідэальны парадак у краіне, у цэнтры старажытнага горада разбураецца гістарычная пабудова. Шыльда на былым Доме Чырвонай арміі сведчыць, што аб’ект з’яўляецца гісторыка-культурнай каштоўнасцю, а прычыненне шкоды караецца законам. Праўда, такое папярэджанне, мякка кажучы, выглядае дзіўным, бо будынак знаходзіцца ў далёка не лепшым стане ўжо не першы год. Гэты аб’ект можа паслужыць прыкладам безгаспадарчасці.

Узвядзенне будынка ў стылі класіцызму пачалося ў 1938 годзе. Вядома, што тады ў Полацку знаходзіўся ваенны гарнізон, у горадзе пражывала нямала вайскоўцаў, і Дом афіцэраў даваў ім магчымасць цікава і плённа праводзіць вольны час. Будынак моцна пацярпеў падчас вызвалення Полацка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Аднаўленнем Дома афіцэраў займаліся пасля вайны.

Сёння гістарычная пабудова, якая знаходзіцца ў двух кроках ад райвыканкама, знішчаецца часам: абсыпаецца тынкоўка, крышыцца цэгла…

– *Калі я працавала ў музеі, палац паціху развальваўся, але яшчэ жыў: там была школа мастацтваў,* – кажа «Народнай Волі» гісторык, мясцовая актывістка **Вольга Дамаскіна**. – *Спадзяваліся, што будынак набудзе значнасць у горадзе. Я ўжо стамілася сачыць, каму ён належыць, хто гаспадар.*

*Сёння палац перастаў жыць, і я гляджу, што з кожным днём ён усё больш развальваецца. Такое адчуванне, што ён забыты ўсімі, стаіць адзінока і нагадвае хату ў вёсцы, гаспадар якой памёр. Відаць, за гэтую гістарычную каштоўнасць нікому галава не баліць, перадусім кіраўніцтву горада.*

Яшчэ на пачатку 2000-х гадоў палац планавалі выкарыстаць як культурна-дзелавы цэнтр, але праект так і не рэалізаваўся. Пра тое, што будынак знаходзіцца ў аварыйным стане, сведчыць чырвоная стужачка перад галоўным уваходам з надпісам: «*Небяспечная зона*».

АФІЦЫЙНА

### «Сродкаў на рэканструкцыю будынка ў горада няма»

Далейшым лёсам гістарычнай пабудовы «Народная Воля» пацікавілася ў начальніка аддзела архітэктуры і будаўніцтва Полацкага райвыканкама (галоўнага архітэктара Полацка і Полацкага раёна) **Таццяны Багдановіч**.

– *Была распрацавана і зацверджана праектная дакументацыя, а таксама праведзена экспертыза пад дзейнасць у будынку былога Дома афіцэраў культурна-дзелавога комплексу,* – сказала Таццяна Аляксандраўна. – *Прадугледжвалася здача памяшканняў у арэнду пад офісы, канферэнц-залы і гэтак далей. Аднак, на вялікі жаль, такіх сродкаў на рэканструкцыю будынка ў горада няма. Ідзе пошук інвестараў, але з-за складанай эканамічнай сітуацыі ў краіне гэта праходзіць не хутка. Пакуль спонсараў, якія жадалі б заняцца будынкам, няма. Дакладную суму зараз не назаву, але гаворка ідзе пра немалыя сродкі.*

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**
**Фота аўтара.**

РЭГІЁН

## Знайшоў 15 кілаграмаў траціла на прысядзібным участку?

53 трацілавыя шашкі агульнай вагой 15 кілаграмаў жыхар вёскі Белыя Балоты Гродзенскага раёна перадаў супрацоўнікам аператыўна-следчай групы Гродзенскага РАУС падчас комплексу мерапрыемстваў “Арсенал”, які праводзіцца ў краіне. Паводле слоў хлопца, траціл ён знайшоў на прысядзібным участку.

## Адкрылі мемарыяльную шыльду Стаброўскім

4 кастрычніка на могілках вёскі Орлавічы Слонімскага раёна адкрылі гранітную шыльду археолагу Іосіфу Стаброўскаму (1870–1968) і яго родным. Шыльду выканаў скульптар Леанід Богдан (на жаль, ён быў забіты ў красавіку гэтага года).

У заснаваным Іосіфам Стаброўскім Слонімскім музеі прайшло адкрыццё выставы ў яго гонар.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК.**

КРЫМІНАЛ

## Расіяніна пры ўездзе ў Беларусь з Польшчы затрымалі з 300 кг гашышу

Як паведамляе Дзяржаўны мытны камітэт, 56-гадовы кіроўца легкавога аўтамабіля Lexus, грамадзянін Расіі, ехаў з Польшчы праз пункт пропуску «Брузгі» па «зялёным калідоры». Мытны кантроль з выкарыстаннем інспекцыйна-наглядннага комплексу і кіналагічнай службы ўказаў на наяўнасць у машыне наркатычных рэчываў.

Пры наступным наглядзе ў спецыяльна выробленых схованках у пустацелых месцах падлогі салона аўтамабіля і яго дна выяўлена 372 брыкеты з рэчывам расліннага паходжання карычневага колеру. Прычым, як адзначаюць мытнікі, доступ да месцаў утойвання стаў магчымы толькі пры дапамозе дэмантажу транспартнага сродку з выкарыстаннем электраінструментаў.

Паводле заключэння эксперта спрэсаванае рэчыва вагой каля 300 кг з’яўляецца гашышам.

У дачыненні да грамадзяніна Расійскай Федэрацыі распачата крымінальная справа. За незаконнае перамяшчэнне праз мытную мяжу наркатычных сродкаў прадугледжана пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам да 10 гадоў з канфіскацыяй маёмасці або без канфіскацыі.

**Аляксей АРЭШКА.** (БелАПАН.)

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

# «При Абламейко БГУ из флагмана стал превращаться в рядовой университет. С приходом Короля ситуация может только ухудшиться»

*Новые кадровые перестановки в БГУ комментирует экс-ректор университета **Александр Козулин.***

**– Александр Владиславович, вы не знаете, с чем связана отставка Сергея Абламейко? Вы же лично были знакомы, рассказывали, что при Абламейко наконец-то вернули ваш портрет в Галерею ректоров, которая размещается в зале Ученого совета БГУ…**

– Знакомы – это громко сказано… Если пересекались на каких-то мероприятиях, то Сергей Владимирович старался меня не замечать… Почему его отправили в отставку? Если честно, мне это не интересно. Абламейко, на мой взгляд, был не самым лучшим ректором. И не только потому, что в университете не было ни академических свобод, ни студенческого самоуправления, что он не смог вернуть практику выборности ректора, как это было в мою бытность: тогда ректора выбирали на расширенном Совете, в который входило более 600 человек, а доценты избирались научными советами. Статус БГУ за последние годы нисколько не улучшился, скорее – наоборот.

Александр Козулин.

**– Многие эксперты отмечают и ставят в заслугу Сергею Абламейко тот факт, что БГУ при нем добился заметных успехов в международных рейтингах. А поскольку в современном мире это считается критерием успешности, то, значит, и работа ректора по международным нормам была успешной.**

– Помимо рейтинга QS World University Rankings 2017/18 британского агентства, который сейчас все вспоминают, есть и другие рейтинги. И, например, в шанхайском рейтинге специальностей БГУ незаметен. А это свидетельство того, что уровень образования в БГУ снизился невероятно.

**– Невероятно – это что значит? Сегодня БГУ по-прежнему считается главным вузом страны, учиться там престижно, поступить непросто. Проходные баллы буквально на все специальности начинаются от 300…**

– БГУ на фоне общей деградации системы белорусского образования держит марку лучшего, туда идут самые сильные и подготовленные выпускники школ. Но качество образования проверяется многими параметрами, не только конкурсом в вуз. Гораздо более важным является то, каких специалистов готовит университет, куда они потом со своим дипломом и знаниями могут трудоустроиться. А что сейчас происходит в БГУ?

Сегодня в структуре доходов университета почти 100 процентов – это платное образование. Университет живет за счет студентов-платников, вуз готов принимать туркменов, китайцев, которые не всегда хорошо говорят и понимают по-русски, лишь бы те платили. Но лучшие университеты мира зарабатывают не этим, а путем интеллектуальной деятельности. При университетах работают инновационные предприятия, которые и зарабатывают, и становятся площадкой для производственной практики студентов, для развития способностей молодых людей. В мою бытность ректором в структуре доходов БГУ платное образование занимало всего лишь 7 процентов, остальную прибыль университету давали малые предприятия, созданные при БГУ.

Белгосуниверситет всегда гордился тем, что давал элитное образование. А сегодня об элитности говорить не приходится. В последние годы БГУ из флагмана превращается в самый обычный университет. Материально-техническая база такая, что плакать хочется, новое оборудование не закупается, главный корпус БГУ давно не ремонтировался. В 2021 году БГУ отметит 100-летний юбилей, и у меня есть опасения, что к этой дате он подойдет в самом плачевном состоянии за всю свою историю.

**– Вы рисуете такую пессимистическую картину… Не говорят ли в вас прошлые обиды?**

– Ситуация в БГУ – это лишь иллюстрация того, что сегодня происходит в системе образования страны. Университет не может существовать автономно, он работает в тех условиях, которые созданы. Все видят, что сейчас происходит! Достаточно вспомнить одну цитату Лукашенко о том, что три года достаточно для получения высшего образования, и сразу станет ясно, в каком направлении будет развиваться высшая школа. Это уже не стагнация – деградация.

На мой взгляд, отставка министра образования Михаила Журавкова – а это был самый прогрессивный министр за всю историю независимой Беларуси – и приход на эту должность Игоря Карпенко свидетельствуют о том, что в сфере образования либерализации уже нет и то немногое прогрессивное, что было создано, будет уничтожаться. Из сферы будут «вымываться» профессионалы. Всегда избегаю вешать ярлыки, но новый министр образования себя уже показал – и новое расписание в школах ввели, и гимназии хотят ликвидировать. Профессионал на такие шаги не пошел бы. Не удивлюсь, если и назначение ректором БГУ Андрея Короля – его инициатива.

**– Вы, кстати, как оцениваете это назначение?**

– Посмотрите на его жизненный путь, и все сразу станет ясно. Пока фамилия Короля вызывает только одну ассоциацию – репрессии. И вполне объяснимы опасения, что с его приходом ситуация в БГУ может только ухудшиться. Хотя звучат и иные мнения: мол, прогрессивный, современный. Мне сложно судить, сможет ли новый ректор вернуть университету ту роль, которую он должен играть в современном обществе, – роль локомотива, который тянет всю высшую школу страны, дает новые направления и ориентиры для ее развития.

Сергей Абламейко.

**– Александр Владиславович, а вы чем сейчас занимаетесь? Из политики, я так понимаю, ушли. Может, вернулись к преподавательской работе?**

– Я пенсионер, занимаюсь, образно говоря, самообразованием. Мне кажется, процесс познания – он непрерывный. Мы даже не подозреваем, как мало знаем… С удовольствием провожу время с дочерьми и внуками.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

Андрей Король.

ЛИЧНАЯ ЖИЗНЬ

Александр КОЗУЛИН:

## «Внук учится в лицее, созданном его дедушкой. Конечно, я горжусь!»

В этом году Владислав Козулин – внук кандидата в президенты на выборах 2006 года Александра Козулина, поступил в лицей БГУ.

Конкурс в это учебное заведение всегда очень высокий, а в этом году было подано почти полторы тысячи заявлений на 264 места! Причем самый высокий конкурс наблюдался в информатико-математические классы – 9,2 человека на место. Именно туда и поступил Владислав.

– Внук учится в лицее, созданном его дедушкой. Конечно, я горжусь! – улыбается Александр Козулин. – И Владик безумно рад. Год он занимался на курсах при лицее. И база у него хорошая, он учился в престижной математической гимназии Минска – одном из немногих средних учебных заведений, где еще дают знания, где работают учителя-профессионалы.

Но мне, безусловно, приятно вдвойне, что Владислав – учащийся лицея БГУ. Может, кто-то не помнит или специально об этом не говорят сегодня, но лицей БГУ создавался при моем непосредственном участии. Это была моя инициатива и идея.

Лицей был образован еще в 1989 году во времена Советского Союза. Я тогда работал помощником министра образования БССР, возглавлял отдел аналитической работы и перспективного развития. Мне приходилось ездить в Москву на согласование, причем подписи надо было получить не только в Министерстве образования, но и труда, потому что создавалось совершенно новое среднее учебное заведение, где не так, как в обычной школе, был выстроен учебно-образовательный процесс. А это иные ставки, не такие, как в школе. Например, вводилась новая должность замдиректора по науке. Кроме того, преподаватели БГУ могли читать лекции лицеистам. Работал лицей не по четвертям, а по семестрам, в классе максимум должно быть 20 человек. В общем, нюансов было много, и на все это надо было иметь разрешение Москвы. Благо, что тогда заместителем министра труда работал наш земляк, белорус, и процедура согласования прошла быстро.

Устав и положение о лицее готовил я, наша команда. Это был первый опыт не только в Беларуси, но, возможно, и на всем советском пространстве. Помню, как приходилось уговаривать Александра Жука – нынешнего ректора Белорусского государственного педагогического университета, возглавить лицей. Опасения, что первый блин будет комом, безусловно, были. Александр Иванович не просто справился, а задал тон учреждению…

Александр Козулин считает, что и сегодня на фоне кризиса образования, который переживает белорусская школа, лицей БГУ по-прежнему остается престижным, элитарным средним учебным заведением, дающим высокий уровень знаний.

– Там заложены традиции, основы, – говорит Александр Козулин. – Лицей смог сохранить высочайший уровень преподавания, туда приходят работать прекрасные педагоги, среди которых много выпускников лицея. В лицее царит атмосфера творчества. А в такой атмосфере можно с удовольствием учиться, получать знания и радоваться жизни.

**Вольга ГЫНЯВІЦКАЯ.**

